Дана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 30 (81). Вільня, Серада 30 Сакавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## „Ліквідацыі".

У папярэднім нумары ў перадавіцы „Дзе-ж закон", мы выказаліся проці распараджэньня адміністрацыйных уладаў у справе ліквідацыі „Грамады", бо зьяўляемся староннікамі дэмакратычнага ладу, апёртага на свабодзе палітычных пераканаваньняў. Незалежна ад гэтага ведаем, што гэнае распараджэньне не апіраецца на ніводнай уставе, а затым пярэчыць асноўным рэспубліканскім падставам, пярэчыць істнуючым законам, бо ў рэспубліканскіх дзяржавах адміністацыйная ўлада — міністры ня маюць права выдаваць ніякіх законаў, ня маюць права выдаваць распараджэньняў не апёртых на ўставах. Мала таго, што распараджэньне аб ліквідацыі Грамады зьяўляецца незаконным, выкананьне яго адбываецца проста, калі можна так назваць, у дзікі спосаб. Ліквідуючы Грамаду паліцыя робіць рэвізіі ў сяброў Сялянскага Саюзу і забірае ад іх рожныя друкі, у тым ліку праграмы і інструкцыі Сялянскага Саюзу. Можна думаць, што польская паліцыя вельмі мала арыентуецца ў беларускім палітычным руху і затым усе беларускія партыі (за выняткам пэўне-ж паўлюкевічаўшчыны) залічае да Грамады і затым праз нясьведамасьць робіць незаконныя рэвізіі сярод сяброў іншых беларускіх легальных партыяў. Але гэтае дапушчэньне зьбіваецца новымі фактамі. Апрача гурткоў Сялянскага Саюзу—як палітычнае партыі, польская паліцыя выконваючы „сумленна" загад міністра, зачапіла і гурткі беларускае культурна-гаспадарчае арганізацыі, зачапіла гурткі Інстытуту.

На асобным месцы мы падаём вестку аб ліквідацыі паліцыяй гуртка Інстытуту ў Парослах, Беластоцкага павету. Гэная вестка ясна сьведчыць аб тым, да якога абсурду даходзіць польская адміністрацыя на беларускіх землях, выконваючы загады адносна Беларусаў. Але гэты абсурд не вынікае з таго, што польская адміністрацыя робіць гэта нясьведама, а наадварот гэтыя абсурды сумысьле тасуюцца да беларускага адраджэнскага руху, каб усялякімі спосабамі рабіць гэтаму руху перашкоды. Польская адміністрацыя скваплiва хапаецца за ўсялякі загад вышэйшай улады і заўсёды тасуе яго ў жыцьці так, каб задаць Беларусам боль.

Яшчэ пры першых арыштах 15 студзеня с. г. паліцыя зрабіла рэвізію ў гуртку Інстытуту ў Парослах і забрала тады кніжкі і пячаткі гуртка. Проці гэтага цэнтральны ўрад Інстытуту паслаў да старасты пратэст, на які стараста адказаў, што рэвізія была роблена ня ў гуртку, а ў старшыні гуртка А. Шумскай, а пячаткі кніжкі гуртка былі забраны „do zbadania". Прайшло толькі два месяцы, а паліцыя ізноў у тым самым гуртку робіць тое самае, аб чым стараста запярэчыў у сваім адказе. Ці-ж у другім сваім адказе стараста таксама напіша, што рэвізія была не ў гуртку, а ў старшыні?! Калі так, дык нашто-ж паліцыі забіраць маемасьць гуртка, на што-ж забіраць кніжкі і сшыткі таварыства?!

Калі першы раз, скажам рэвізыя адбылася абмылкова, дзякуючы нясьведамасьці паліцыі, дык нашто-ж была патрэбна гэта другая рэвізія і бясправўная канфіската маемасьці гуртка Інстытуту??

Адказы на ўсе гэтыя пытаньні гавораць ясна адно: паліцыя хоча наганяць страх на паасобных працоўнікаў на беларускай ніве, паліцыя хоча адстрашаць сялянства ад запраўдных беларускіх палітычных партыяй і ад беларускіх культурных установаў. Але ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства павінна востра пратэставаць проці ўсіх мэтодаў польскае адміністрацыі, якая імкнецца спыніць усялякія праявы беларускага грамадзкага жыцьця. Чым больш улады будуць рабіць перашкод ў працы беларускіх арганізацыяў, з тым большай энэргіяй і вытрывальсьцю трэба нам змагацца з гэтымі перашкодамі. Па нашай старане права, па нашай старане і воля народу.

*А. Саюзьнік.*

## Прамова сэн. Багдановіча

**ў Сэнаце 10.III с. г. пры дыскусыі над бюджэтам Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў.**

(Працяг).

Усё тое аб чым да гэтага часу я гаварыў, гэта — агульнасьці. Галоўнаю рэчай ёсьць тое, што да апошняга часу палажэньне праваслаўнай царквы ў Польшчы ня мае цьвёрдых праўных і кананічных падставаў. Замест таго, каб склікаць кананічна праўны сабор і выясьніць і залатвіць гэтую справу згодна з царкоўнымі правіламі і паводле царкоўнага сумленьня ўсяго сабраньня верных праваслаўных, урады самі ўзяліся за справу аўтакефаліі. Некалькі ўжо раз, здаецца пяць, ці шэсьць, урачыста браліся, а пасьля ўрачыста і абвесьцілі гэтую аўтакефалію, але... відаць і да апошняга часу гэтая справа ня моцна стаіць. Гэтымі днямі, даведаліся мы з газэтаў, што праваслаўны мітрапаліт выяжджае да Сэрбіі, а адтуль у Канстантынопаль у мэтах, як пішуць) „апошняга (кожны раз гэта было апошняе, вырашэньня справы аўтакефаліі праваслаўнай царквы ў Польшчы". З гэтага ўжо відаць, што паміма ўсякіх урачыстасьцей, паміма ўсякіх прызнаньняў Канстантыпольскага патрыярха (якога ня ведаю на якіх падставах, кс.-сэнатар Мацеевіч лічыць за ўсходняга папежа, — бо гэтага ня маем) самі творцы гэтае аўтакефаліі адчуваюць яе нетрваласьць. І нічога дзіўнага, бо паводле праваслаўнай дагматыкі сваю рэлігійную долю можа вызначыць толькі кожная царква сама, як царкоўны народ у паразуменьні са сваею кананічнаю ўладаю.

Але-ж я быў-бы несправядлівым калі-б цьвярдзіў, што ў адносінах ураду да праваслаўнай царквы няма нічога новага. Знойдзен ужо новы сродак зьнішчэньня праваслаўя і адабраньня царквы, дамоў і царкоўнай маемасьці. Сродак гэты — нэо-вунія. Гэтая акцыя звычайна праводзіцца ў наступны спосаб. Пераймаецца ў вунію які-небудзь праваслаўны пастар, звычайна з тых, якія за сваю віну падлягаюць кары з боку сваей духоўнай улады (а часам і сьвецкай). Пастар гэты абвяшчае сваю парафію вуніяцкаю і аддае яе пад дыспазыцыю найбліжэйшага р.-каталіцкага дэкана. Парафіяне пратэстуюць проці гэтага, зьвяртаюцца да сваей духоўнай улады, якая высылае ім новага пастара, але ўжо ні дамоў, ні царквы, ні зямлі, ні прыладаў, ні царкоўных шатаў з паваротам яны атрымаць ня могуць: усё ўжо стала ўласнасьцю р.-каталіцкага касьцёлу. Гэтак рабілася ў Падароску, Ваўкавыскага пав., у Голамысле, Дзісненскага пав., у Ятвеску, у Дзелітычах і ў многіх іншых парафіях. Мясцовыя і цэнтральныя ўлады вельмі старанна падтрымліваюць гэты далікатны спосаб прысвойваньня чужое маемасьці. Ніякія просьбы, жалабы парафіян аб звароце ім царквы, дамоў, зямлі і царкоўных рэчаў не памагаюць, калі-б знайшлося ў тэй парафіі два-тры вуніяты на тысячу праваслаўных. Улады ў найлепшым выпадку трымаюць нэйтралітэт. Нарэшце, калі здарылася нешта адваротнае, калі адзін перайшоўшы на вунію пастар у Вільні, захацеў вярнуцца да праваслаўя разам з тымі рэчамі, якія Піліп Марозаў забраў з праваслаўнае царквы, дык паліцыя ўжо не асталася нэйтральнай але-ж зьявілася адразу і перадала царкоўныя рэчы вуніяцкай царкве. Таксама зазначыць трэба, што калі ў Галіцыі некалькі парафіяў цалком перайшло на праваслаўе, дык у тым выпадку ім не аддаюць царкоўных уласнасьцяў.

І вось яшчэ прыклад. Чатыры жыхары перадместа Вільні Антаколя, якое знаходзіцца ў значнай адлежнасьці ад іншых царкваў, акрамя сваей, заўсёды просяць і духоўнае і цывільнае ўлады аб звароце ім для адправы набажэнства забранай царквы, якая стаіць бяз ужытку і чатыры гады просьбы астаюцца бяз выніку. Але калі зьявіўся перайшоўшы на вунію кс. Леснабродзкі, дык дзьверы гэтай царквы зараз адчыніліся і пачалося там вуніяцкае набажэнства...

Гавару гэта дзеля таго, каб пераканаць вас у шкоднасьці гэтакіх акцыяў, каб змусіць вас падумаць хоць-бы аб тым, як павінна адбівацца на душах насяленьня істнаваньне дзьвёх праўдаў: аднэй для праваслаўных і другое для вуніятаў.

Ізноў паміма волі паўстае пытаньне: каму гэта патрэбна, каб праваслаўны народ і праваслаўныя дзеці асталіся без малітвы і навучаньня веры? Дзе той „tertius gaudens", які выкарыстае з гэтых ні для кога, здаецца, не патрэбных пробаў? Робіцца гэта, як відаць, пад дэвізам „ad majorem Romae glorjam". Але-ж думаю, што самі праканаліся, што ніякай славы ані для Рыму, ані для дзяржавы, ня вышла з усей авантуры з Піліпам Марозавым. Ці варта было-б ламаць канстытуцыю, падбураць народ проці ўлады, зьністажаць аўтарытэт польскага духавенства захватам чужое маемасьці, паніжаць аўтарытэт цывільнай улады супрацоўніцтвам у гэтых справах; ці варта было нават абнаўляць у касьцёлах. бышых царквах, г. зв. іканастасы, якія гэтак яшчэ нядаўна зьніста-

# Сьвяткаваньне 9-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Вялікае нацыянальнае сьвята Беларускага Народу 25 г. сакавіка ў 9-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі распачалося набажэнствам у касьцеле сьв. Мікалая.

У часе набажэнства хор пяяў беларускія нацыянальна-касьцельныя песьні.

На гэтае набажэнства прыйшло амальшто ўсё беларускае грамадзянства бяз розьніцы кірункаў. Ня было відаць толькі тых нямногіх асобаў, якія на словах гэтак старанна бароняць працоўны беларускі народ.

Пасьля набажэнства кс. Татарыновіч з запалам энтузыязму сказаў навуку галоўным чынам зазначаючы, што наша адраджэньне будзе трывалым і запраўды моцным тады, калі Беларускі Народ адродзіцца духова, калі ўсьвядоміцца ў сваей нацыянальнай прыналежнасьці і калі будзе праводзіць адраджэньне ў духу Хрыстовай Эвангэліі. У сваей прамове кс. Татарыновіч у вельмі прыгожых словах адзначыў дзень нашага нацыянальнага сьвята абвешаньня Незалежнасьці Беларусі і касьцельнага сьвята Дабравешчаньня.

Пасьля набажэнства ў касьцеле, адбылося набажэнства ў праваслаўным Прэчысьценскім саборы. І там ізноў тая-ж самая беларуская сямейка пасылала свае гарачыя малітвы аб хутчэйшым зьдзейсьненьні нацыянальных Ідэалаў і аб дараваньні Беларускаму Народу лепшай долі ў самай блізкай будучыне.

На гэтым закончылася адна частка сьвяткаваньня.

А 7 гадз. вечара ў салі „Жоржа" адбылася ўрачыстая акадэмія. На гэтую ўрачыстасьць сабралася беларускае грамадзянства і запрошаныя госьці з літоўскага, польскага і жыдоўскага грамадзянства.

Распачаўся абход урачыстасьці прамоваю пасла Ярэміча, які ў кароткіх словах адзначыў увесь сэнс і мэты сьвяткаваньня.

На яго прапазыцыю памяць пагібшых змагароў за Беларусь ушанавалі ўставаньнем.

Пасол Рагуля ў сваей прамове выказаў гістарычны ход і лёс Беларускага народу і адчытаў устаноўную Грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску ад 24 сакавіка 1918 года, якою 25 таго-ж сакавіка была абвешчана Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

З прывітаньнямі ад прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцей першым выступіў ад імя Літоўскага Народу грамадзянін Вялецкі, які па прывітаньні прысутных і пасьля пажаданьня зьдзейсьненьня беларускіх нацыянальных імкненьняў зазначыў, што ўсе апякуны над Беларусамі стараліся ўсыпіць яго і вечна трымаць у пялёнках не даючы яму падняцца на ногі. Але-ж ня гледзячы на гэта Беларускі Народ не загінуў, а прабудзіўшыся стаў на ногі, аб гэтым сьведчыць акт 25 сакавіка 1918 году. Паміж іншым грамадзянін Вялецкі сказаў, што ў працягу некалькіх вякоў Літоўскі і Беларускі Народы жылі супольным жыцьцём, нашы прадзяды, дзяды і бацькі жылі згодна, жывем згодна і мы і нашы дзеці і ўнукі; спадзяюся, будуць жыць таксама згодна.

Пасьля грамадзяніна Вялецкага выступіўшы з прамоваю адвакат Міцкевіч, які адзначыў, што паміж Польскім і Беларускім Народамі істнуе непаразуменьне і далей у сваей прамове выказваў пажаданьні, каб для дабра абодвых братніх народаў, якнайхутчэй наступіла зразуменьне інтарэсаў і патрэбаў абодвых народаў.

Наступны прамоўца адвакат В. Абрамовіч адзначыў, што ўся дэмократыя нашага краю імкнецца да самастойнага жыцьця, а дзеля гэтага самага Ідэя Беларускага Народу ня чужая многім Палякам і закончыў пажаданьнем зьдзейсьненьня Ідэалаў Беларускага Народу.

Далей выступалі з прамовамі п. Гэльман і Я. Станкевіч.

Па закančэньні прамоваў пасол Ярэміч адчытаў прывітальныя тэлеграмы ад наступных арганізацыяў і асобаў:

### Ад Украінскага Нацыянальна-Дэмократычнага аб'яднаньня.

„У дзень сьвяткаваньня адраджэньня Беларускага Народу Украінскае Нацыянальнае Аб'яднаньне шле прывітаньне і пажаданьні зьдзейсьненьня нашае супольнае мэты. Д-р Дымітра Лявіцкі".

### Ад старшыні Украінскага Клюбу.

„Братом Беларусам як і сабе жадаемо хутчэй збудаваці аб'яднаную, злучаную незалежную Бацькаўшчыну. Пасол Казіцкі."

### Ад сэнатаря Рубінштэйна і пасла Стучынскага (з жыдоўскага клюбу).

„Пасылаем сэрдэчныя прывітаньні з прычыны Беларускага Нацыянальнага Сьвята. Сэнатар Рубінштэйн. Пасол Стучынскі".

### Ад пасла д-ра Выгодзкага.

„Зычу самадзельнага расцьвету Беларусі, шчасьця і пасьпеху. Д-р Выгодзкі".

### Ад украінскага пасла Паўла Васыньчука.

„Няхай жыве Незалежная Беларусь! Павал Васынчук".

### Ад польскага пасла Плаўскага.

„У дзевятыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці пасылаю сэрдэчныя пажаданьні найхутчэйшага асягненьня Ідэалаў Беларускага Народу. Пасол Плаўскі".

### Ад паноў Акуліча і Сьвяневіча.

„Сэрдэчныя пажаданьні ў дзень Нацыянальнага Сьвята пасылаем. Акуліч. Сьвяневіч"

### Ад польскага пасла Людвіка Хамінскага.

„Выражаю жаль з прычыны прымусова непрысутнасьці, у дзень Беларускага Нацыянальнага Сьвята пасылаю выразы надзеі сьвяткаваньня яшчэ ў нашым жыцьці ўгодкаў устанаўленьня Вольнай Фэдэрацыі нашых Вольных Народаў. Людвік Хамінскі".

Па адчытаньні прывітаньняў распачалася канцэртная частка ўрачыстасьці, у часе якой хораша пяяліся беларускія народныя і патрыятычныя песьні і дэклямаваліся вершы і нарэшце пяялі беларускі нацыянальны гімн „Ад веку мы спалі".

Хор мяшаны пяяў пад загадам Альбіна Стэповіча, пасьля чаго выступіў камплект хору мужскога пад загадам Янкі Пешкі. Солёвыя нумары канцэрту выпаўнілі гр. гр. Л. Сасноўская і Г. Карузянка.

Урачыстае сьвяткаваньне закончылася гарбаткаю і працягнулася да познай ночы, у часе якой прывітаў ад імя жыдоўскае дэмократы д-р Шабад.

Увесь ход гэтай урачыстасьці зрабіў добрае ўражаньне на кожнага прысутнага: ува ўсім гэтым сьвяткаваньні чулася запраўднае прабуджэньне Беларускага Народу да новага жыцьця.

На сьвяткаваньні было многа прадстаўнікаў правінцыі з беларускіх вёскаў, а таксама слухачы коопэратыўна-гандлёвых курсаў.

# НАВІНЫ.

— **Новыя выданьні.** Гэтымі днямі вышлі з друку: літэратурна-гаспадарчы месячнік „Родныя Гоні" і гаспадарчая часопісь „Саха", друкаваныя кірыліцаю.

— **Аб загранічных пашпартах.** Цяпер ужо загранічныя пашпарты можа выдаваць павятовае староства. Плата за пашпарты астаецца тая самая.

— **Аб валасных падатках.** Вышла новая ўстава аб валасным падатку, якая дазваляе на пакрыцьце гмінных дэфіцытаў рабіць надбаўкі да дзяржаўнага грунтовага падатку.

— **Ліквідацыя беластоцкага школьнага кураторства.** Беластоцкая школьная куратория ліквідуецца. Частка куратоскае тэрыторыі з беларускімі паветамі далучана да віленскае куратории, быццам ў мэтах аб'яднаньня справы беларускага школьнага пытаньня.

# Дауней і цяпер.

Падыходзіць 1 красавіка. Дзень традыцыйны шутак, жартаў, сьмеху, нявіннага ашуканства. Многія ўспамінаюць гэты дзень з усьмешкай на вустах і гатуюцца да новага сьмеху. На мяне-ж гэты дзень паганяе нейкі сум, нуду, бо паняволі прыходзіць на памяць дзень 1 красавіка 1925 г. з усей жудаснасьцю, несправядлівасьцю, калі польскі ўрад зрабіў гэты традыцыйны „Prima Aprilis" для многіх сотняў Беларусаў у Навагрудзкім ваяводзтве. Ясна прыпамінаецца мне, як я 31 сакавіка таго году выехаў з гасьцей ад свайго прыяцяля П. з Новай-Вялейкі. Пад аднатонны грохат калёс вагонаў „ах, як трудна, ах, як трудна" я аддаўся сваім нерарэчным лятуценьням. У сваіх мысьлях я дапускаў усякія штукі, але такой, якая мяне чакала ў дому на'т і ў сьне ня бачыў. Як толькі я прыехаў да хаты а 2 гадзіне ў ночы 1 красавіка, зараз-жа акружыла мяне 14 жаўнераў і 3-х паліцэйскіх, скавалі мне рукі,ператрасьлі ўсяго, перарылі ўсё ў хаце і ў будынках і забраўшы два нумары „Krynicy" і адзін „Сялянскай Долі" пад сільнай стражай завезьлі ў Лідзкі вастрог, дзе і прышлося прасядзець больш месяца.

Як там жылося і паводзілася, скажу коратка: так як і ў кожным вастрозе, а ведаю, што блізу ўсякі сьведамы Беларус папробаваў вастрожнага жыцьця. Скажу тут толькі пра вельмі арыгінальнага „antypaństwowca" дзядзьку Аўгустына М., каторы правёў там таксама з намі больш месяца. Гэта быў высокі, каля трох аршын ростам, худашчавы стары мужчына. Ня гледзячы на 87 гадоў трымаўся зусім проста; на'т валасоў сівых было вельмі мала. У голасе яго, калі ён гаварыў, чулася нейкая павага, станоўчасьць, поўнасьць, недапускаючая ніякаа праціву. Між нас 22 чалавек у адной „celi" было ўсякага люду, з усякім сацыяльным і грамадзкім становішчам: ахвіцэры, студэнты, вучыцялі, пісары і іншыя. Дзядзка-ж Аўгустын быў селянінам, на'т няграматным, з пад Налібок, Валожынскаго пав. Але калі ён пачынаў гаварыць, то ўсе кідалі свае заняткі і гутаркі і з вялікай увагай слухалі „дзядзьку" Аўгустына. І майстар-жа быў ён расказываць! Жываты балелі ад сьмеху, як ён расказваў свае ўраджаньні з язды чугункай са Столпцаў у Ліду, а трэба сказаць, што гэта было яго першая ў жыцьці падарожа па чугунцы. Між іншым, ён нам расказаў, па нашу агульную просьбу, свой пагляд на палітыку польскіх паноў на вёсцы даўней і цяпер.

„Мне было гадоў 19 калі памёр мой бацька — пачаў ён. Бацька мой быў у вялікай ласцы ў пана, бо быў добра майстра — муляр; паводзілася яму нізгорш відаць, бо пасьля яго сьмерці асталося на'т некалькі рублёў. Па сьмерці бацькі я ўзяўся шчыра за палепшаньне гаспадаркі і яе прыладаў. З гэтай мэтай насам-перш зацягнуў воз да каваля, нацягнуў колы новай шынай, увагнаў буксы, а пад восі падлажыў падоскі. Рад з свайго возу еду да хаты і як раз на паўдарозе, каля Бродаўкі спатыкаю пана. Я зьняў шапку, а пан затрымаў коні і глянуўшы на мой воз пытае: „А, ці добра ехаць, Аўгустын, каваным возам?" — Вельмі добра, яснавяльможны пане — адказаў я. Ты, Аўгустын, прыедзь заўтра зраньня ў двор. Маю да цябе інтэрас — сказаў пан і паехаў. Нічога кепскага ня думаючы, на заўтра запрог я каня ў новы новы воз і пацягнуўся ў двор. Пан яшчэ спаў і толькі аканом убачыўшы мяне неяк злосна ўсьміхнуўся, але нічога не сказаў. Неўзабаве ўстаў пан і вышаў на ганак. Я, здалёк шапку зняўшы, падышоў да яго:

— А, гэта ты, Аўгустын, прыехаў. Вельмі добра! Пачакай крыху. Гэй Бузінскі, звярнуўся ён да аканома, — вазьмі Аўгустыноў воз у вазоўню, а яму укуйце на босую 25 гарачых, каб ён ведаў як езьдзіць акаваным возам!" Як пан сказаў, так слугі зрабілі. Пабрыў я плачучы да хаты, дзяржучы у адной руцце каня, а ў другой споднюю часьць адзежыны. Але гэта тагды не называлася палітыкай. Цяперь справа прадстаўляецца інакш. Я маю усяго $2^1/_2$ дзесяціны зямлі, чатырох сыноў; як дубы хлопцы. Адзін з іх добры сталяр, другі каваль, трэці муляр, а наймалодшы шавец. Вось пры немцах мае хлопцы надумаліся пабудаваць новую хату. Навазілі дрэва збудавалі вялікую, на два канцы, хату. Паставілі дзьве печы з комінамі, павыразалі вялікія вокны, парабілі акяніцы, памалявалі, улажылі падлогу і вышла ў нас ня хата, а проста палац. Паглядзець люба! Сабяруцца вечаркам, зімой да нас суседзі, а сыны мае граматныя, пачытаюць газэткі, раскажуць, што на сьвеце робіцца, як у другіх старонках жывуць, пагутараць як палепшыць сваю долю, хто наш прыяцель, а хто вораг. Пан-жа наш, сын таго што біў мяне за каваныя калёсы, вярнуўся з Расеі і не знашоў у сваім палацы ні аднаго на'т вакна; палац той яго блізу зусім разваліўся. Брацца за направу палацу няма з чым, бо нат хлеба ня меў спачатку. Паклікаць-жа мяне ў двор і забраць ад мяне маю хатку, хоць і харошую, а мне ўсыпаць ізноў 25 гарачых, даўнейшым спосабам ужо ня можна. Пан, як тагды быў панам, так і цяпер ім астаўся: такія-ж слугі, толькі адзетыя ў форму, па прыказу таго-ж пана, хвацілі мяне, зацягнулі, праўда ні ў вазоўню, а на пастарунак і таксама ўсыпалі, толькі больш культурным, вышуканым спосабам і бяз ліку і прывязьлі вось сюды ў Ліду. І цяпер гэта называецца „палітыкай" — кончыў ён свае апавяданьне.

*Рыбацкі.*

